* * *

У чарговым кроку
да жаноцкасці –
навяртаюся.
У чарговым кроку
да Цябе –
спавядаюся.
Каб... быць!!!
Каб проста БЫЦЬ!

## Жаночая лірыка

Жаночая лірыка – гэта любоў,
Што птушкай лятае ў небе вясновым.
У вершах жаночых – паэзія сноў,
Імкненне да шчасця ў кроку чарговым.

У вершах жанчыну пабачце ўсю:
Усе карты жыцця трымае ў далоні,
Як зграбна іграе ролю сваю:
Паэтка жыве ў любоўным палоне.

Любоў, міласэрнасць – асноўны сюжэт.
Любоў да ўсяго, што жыве на планеце,
І дзіўную музыку грае кларнет,
Мелодыя гэта вандруе па свеце.

І чыстай бялюткай паэзіяй дня
Чаруе бясконцаю верай у шчасце.
Жаночая лірыка – мара мая.
Хачу ёй у вершах пачатак пакласці.

* * *

У ёй схавана існасць свету.
Жанчына – то выток жыцця.
І ў думках новага сюжэту
Аддана сутнасці быцця.
Жанчына – гэта таямніца.
Яе жыццё – складаны верш.
Яе душа – выток крыніцы,
А думка – мроя белых веж.
І сэнс жыцця яе – мужчына!
Каханне – воля лепшых мар!
Царыца ўсіх мужчын – жанчына,
Што ўсміхаецца з-за хмар!

## Вальс пачуццяў

Букет з язміну ў руках –
Уздых і колы ўспамінаў...
Прыемны і салодкі пах
Даруе кветачка язміну!..

У промнях сонечных святла
Чароўны вальс імчым з табою.
І зноў прыйшла да нас вясна!
Мы захапляемся вясною!

Вятрыска лашчыць цеплынёю,
Слязінкі коцяцца ў далонь.
Мы забаўляемся гульнёю,
Як сонейка цалуе ў скронь.

У пачуццёвым вальсе ночы
Імчым з табой ў край нябёс,
Любоў люструюць нашы вочы,
Нас аб’яднаў сумесны лёс.

## Вандроўкі

Вераснёвая ноч нарадзіла,
А люляла мяне вясна.
Да яе ў сны хадзіла,
З ёй смяялася і расла.

Даравала каханне лета.
Жнівень Боскім кадзілам трос,
Паграnumaжаючы запаветам
І грахоўным кошыкам слёз.

Заляцаўся снежань самотай,
Люты сцюжай у сэрца лез.
Палюбіла, дурнічка, употай
Гадавы каляндар увесь.

І цяпер па ім вандрую:
Ад сустрэчы і да сустрэчы.
І цалую вясну, цалую,
Бо любімы – маёвы вечар.

* * *

Для кагосьці стаць ідэалам
Страшна і няёмка…
Жанчыны, чалавека, жонкі…
Страшна не сказаць пра ідэал,
Калі ты хацеў і не сказаў.

## Дачакалася!

Дачакалася!
Душа баліць стамлёна.
Не верыцца, што я жыву.
Улюбёная, я зноўку ўлюбёная
У сваю жаночую душу.

А цябе ў снах шукаю
Паміж мноства сонечных людзей,
Светлы вобраз маладога раю,
Светлы вобраз маладых надзей.

І няхай крывавіць адзінота
Мне маю стамлёную душу.
Улюбілася ў нябёсаў цноту
І любові іншай не прашу.

І каханак мой такі цудоўны,
У аблоках пасвіць цішыню.
Светлы вобраз кучаравых чоўнаў
Амывае брудную душу.

У вадзе хаваецца ўсмешка,
Вусны, вочы і яго душа.
Я зрабіла яго вобраз лепшым,
Толькі закахалася спярша.

## Дыялог

Загадала зорам
Дараваць мне шчасце
У той чароўны вечар,
Дзе вясна жыла.

Зоры даравалі
Мне сляпую волю
Палыновых свечак
І крыху святла.

Папрасіла ноч я
Захаваць каханне
У яе далонях,
Каб навек, навек...

Ночка захавала
Успамін любоўны
На нябесным ложку
З зорнае бавоўны.

Раніцу спытала:
“Як схаваць мне смутак,
У якім куточку
Вечнае душы?”

Раніца, усміхнуўшыся,
Мне сказала гучна:
“Не любіла ты!”

* * *

Разгарні душы старонкі…
Упішы сваё імя,
Я пастаўлю подпіс тонкі:
“Назаўсёды я твая!”

Разгарні душы старонкі…
Ты пабач мяне ўсю:
Там ільецца песняй звонкай
Хваля слёзнага дажджу.

Абяцай не верыць словам,
Што казалі пра мяне,
Бо яшчэ ніхто, ніколі
Не судзіў, як Бог, мяне.

Я жыццём сваім кірую,
А цяпер яшчэ і ты.
Шчасце разам намалюем
Раз адзін і назаўжды.

* * *

Смелае шчасце выбрала ўноч,
Быць не хацела тваёй.
Смеласць мая нарадзілася ў дождж,
Пэўна, вясенняй парой.

Так і жыву на парывах душы.
Лётаю, шчасце лаўлю.
Мой успамін дазваляе вяршыць,
Верыць у словы “Люблю”.

## Сустрэча

Нясмелы позірк закаханай ночы
З табою шчасце напрарочыў.
Нам суджана было сустрэцца
Ў часе нечаканай смерці.

* * *

У бясконцай сваёй душы
Для цябе пакіну шчасце.
У кахання няма мяжы,
У кахання ёсць няшчасце.

* * *

Усё заканчваецца хутка:
Любоў, жыццё і пацалункі.
Імгненне быць адной і разам
З каханым, з маці, з вольным часам.

Ты хутка прывыкаеш да ўсяго:
Хвіліна шчасця за гады здаецца,
Але прыходзіць заўтра без яго.
Марудна адвыкаеш...

Ну а сэрца... сэрца б’ецца!

## Без цябе

Паміж надзеяй й
безнадзейным адчуваннем часу
Жыву з табой і без цябе.
Вачэй усмешка, пацалунак твару –
Жыццё ў восені хаваю,
А ты турбуеш усё мяне.
Смяешся, быццам закаханы,
Цалуеш, быццам ад душы.
А я лячу былыя раны,
Калісь сказаўшы: “Не пішы”.

## Адзінаму

*мужу*

Ёсць мара:
У тваіх абдымках засынаць.
Ёсць мара:
Быць тваёй жаданай,
Душу і сэрца век яднаць,
Адзінай быць жыццёвай з’явай.
Калі ты шэпчаш: “Я люблю”,
Калі ты мовіш: “Назаўсёды”.
Агонь у сэрцы распалю
І пачакаю тваёй згоды.
Мне цеплыня тваіх вачэй
Пяшчотнай хваляй лашчыць сэрца.
Мне зоркай свеціць у час начэй
Гарачыня, што з вуснаў льецца.

## Прага шчасця

*мужу*

Якая часам узнікае прага
Нарэшце быць шчасліваю з табой,
Каб кожны вечар пацалункаў смага
Адорвала, бы сонечны прыбой!

Убок зласлівым спрэчкам усміхнуцца,
Душою асвяціць сямейны дом,
Забыўшыся на крыўды, азірнуцца,
Узысці ўдваіх на лёсавы паром.

Каб звонкі смех дзяцей, усхваляваўшы,
Душу прымусіў радасцю гучаць.
Як часта гэту ролю граўшы,
У сне хацелася жыццё ствараць.

Жыццё, у якім утульнасць, шчасце,
Пякельнасць вуснаў, казка цеплыні.
Жыццё вялікай таямнічай страсці…
Уздым душы агульнай у цішыні.

Якая часам узнікае прага,
Нарэшце, быць шчасліваю з табой,
Каб кожны вечар пацалункаў смага
Адорвала, бы сонечны прыбой.

## Успамін

Перагледзіць жыццё яшчэ раз
Па старонках мінулай восені:
Не бянтэжыць ніколі Вас
І схавацца ў ранішняй просіні.

Па начах баяцца заснуць:
У фантазіі мроіцца шчасце,
А на досвітку мару вярнуць
Ці ў сна яе зноўку скрасці.

Імкнучыся ў думках да Вас,
Я ствараю вобраз вершам.
Хуткаплынна цягнецца час
Над радком апошнім і першым.

* * *

У снах з табою размаўляю.
Ты іншы там, чым у жыцці.
Цябе чакаю на імбрычак чаю,
А да мяне ўсё не прыходзіш ты.

Чакаю…
Недарэчнасць у слове…

Чакаю…
І зноў нямая цішыня…

Раней пры нашае размове,
Цяпер, калі ў сне адна.

У часе нечаканае сустрэчы
Паветра буду іртом глытаць,
Каб толькі вечар, падарыў мне вечар,
Каб потым пяць начэй не спаць.

Зноў хвалявацца, што ў сне размова
Збянтэжыць, як упершыню.
Я так чакаю твайго слова
На мове, што гучыць “Люблю”.

* * *

Восень у вачах тваіх. Восень...
Прыгарнуцца і схавацца просіць!
У глыбокім позірку надзейным
Я схаваю фотаздымак дзеі.

* * *

Прапановы…прапановы…
І гульня…гульня ў словы.
Абрубіць усе карані!
Больш каб не было гульні!

* * *

Тэатральным раманам
Адгукаецца восень,
Шчырай усмешкай паэта
І акцёрскіх вачэй.
Уначы ўспамін
Зоры ў жменях прыносіць:
Не адмовіцца мне
Ад спакуслівых дней.
Нечаканая памяць
Родзіць турботы,
Пах бяссонных начэй
Паглынае ўсю.
Што ўзяць
З незабыўнае зорнае цноты:
Тэатральную мару
Ці святую вясну?

## Адказ

На пытанне тваё:
“Ці пішуцца вершы?”
Памаўчаўшы крыху,
Я табе адказала,
Што натхненне маё
Крочыць стомлена пешшу
І аднойчы ўжо яно памірала...
“Хто дазволіў табе
Зрабіць пахаванне?” –
Запытаў ты ўголас,
Глянуўшы ў вочы.
“Той, хто раніў
Былое каханне
І дазволіў памерці
Аднойчы ўночы!

* * *

Дождж пачуццяў амывае душу –
Я плачу.
Вершы пішу і не пішу –
Я не магу іначай.
Подых натхнення вяртае
Мяне да цябе.
Не, да нас!
А, можа, да Бога?!..
Гэта вар’яцтва!

* * *

Жывеш і бачыш кожны вечар
Ва ўспамінах маладосць.
Ужо мудрасць запаліла свечы,
А памяць усё спявае штось.

Жыццё плыве павольнай хваляй...
Плыве, а потым проста мчыць...
Кахалі, верылі, кахалі –
Усё з адной надзеяй Жыць!

* * *

Маўклівы позірк,
                    які душыць,
збівае з ног і крываточыць.
Улюбёнасць мучыць,
                    мучыць,
                              мучыць –
баюся бачыць твае вочы.

У іх – пустэча і маўчанне,
Няма жыцця, а толькі страх.
Маўклівы позірк і растанне,
Каханне не ў тваіх руках.

Мая прыдумка ты й...
                    няшчасце,
Улады Боскай у нас няма.
Маё сяброўства можаш скрасці,
Каханне падару сама.

* * *

Не чакаю ад цябе прызнанняў,
Ты сваю ўсмешку падары.
У чарговы раз, улетку, раннем,
У час, калі спяваюць салаўі.

Ты скажы мне ласкавае слова,
Паглядзі чароўна на мяне,
Каб у жніўні сонечнае кола
Завітала ў госці ў сумным сне.

* * *

Нечаканыя водгукі сноў
Гожым вечарам непакояць.
Паміж сказаных калісь слоў
Памяць улетку пацiху ходзіць.

Крыжаваныя сцежкі стрэч,
Азірнуўшыся, мінаю,
Наляцеў успамінаў смерч –
Ахінуў паркалем жалю.

* * *

Пацалунак ночы,
Месяцовы подых.
Цуд!
З песняю дзявочай
Танчыць вецер готык.
Цуд!
Новая сустрэча
Расчыняе дзверы,
Запаліўшы ў сэрцы
Золкія даверы.
Шчасцем падаецца
Рух знямоглых цел.
Цішыня смяецца,
Бо так ты хацеў!
Хораша!
Уночы цалаваць вясну
І шаптаць употай:
"Смелае люблю!"

* * *

Лунаюць у паветры нясмелыя словы.
Ёсць гучнасць, матыў і мелодыя.
Не чуць іншым людзям гэтае мовы –
Я буду тваёй рапсодыяй.
Я буду тваёй гармоніяй,
Знойдзенай у лістападзе,
Абсэнтам, выпітым снежнем,
Каханнем, скрадзеным недзе,
Апоўначы зорачкай першай.
Храмам, каб толькі не збочыць,
Асвечаным пацалункам,
Любоўнай тваёю ноччу,
Арынкаю з малюнку.
Спяваць табе буду ранкам
Я светлыя калыханкі.

## Не кажыце

Не кажыце:
“Кахання няма”.
Яно ёсць, будзе жыць і далей,
А ў каханні – сама вясна –
Абуджэннем тваіх начэй.
У каханні жывуць дабро,
Цеплыня і душы памкненні,
Бо каханне ? і ёсць жыццё
У палоне касмічных імгненняў.

* * *

Гаркоты пах у паветры…
Я веру і не веру
Ў нялюбасць Вашых слоў.
А ў самым сэрца цэнтры
Смяецца і рагоча
Нялюбая любоў.

* * *

Ёсць дабрыня,
І сэрца ёсць,
І я дарую ўсё яму,
Бо ні мана,
Ні мая злосць
Не выратоўваюць душу.
Ёсць дабрыня,
Ёсць міласэрнасць,
Жартую часта над жыццём…
Зноў цішыня…
І мая вернасць
Хавае часам пачуццё.

## Зварот

Не кажы мне слоў кахання.
Мне не трэба гэтых слоў,
Падары адно спатканне –
Праспяваю пра любоў.

Паланэз майго кахання
Будзе музыкай гучаць.
Толькі дай адно спатканне
Наша шчасце праспяваць!

## Калісьці

Мне калісьці раней сапсавалі душу,
І яна ўсё ірвецца ў кавалках дажджу,

Патанае ў абдымках вар'яцкай любві,
Ненавідзіць былыя крокі вясны,

Усхвалявана шукае святой чысціні
У васільковых вачах, ва ўзаемным на "ты".

Але зноў разумее і плача душа,
Ад чаго, ад чаго... не схаваешся.
Чорна-белаю стужкай імкнецца ў жыццё
І не любіць былое плоці зліццё.

## Крокі памяці

Горыч, смутак, можа, боль
Мне пакінула вясна.
Нас не будзе больш у ёй.
Нас ужо з табой няма.

Светлы, светлы ўспамін…
Шэры-шэры-шэры дзень…
Ты застаўся маладым
У душы маёй, як цень.

Ходзіш памяццю за мной:
Не шкадуеш, не клянеш.
Боль салодкі, але боль
Да мяне ты зноў нясеш.

Пашкадуй, спыні гульню,
Не ўрывайся ў плыні слёз,
Іх я вытру. А вясну
Не спыняе смелы лёс.

## Маўклівае

Смелы крок да цябе...
Маўчанне...
Незнаёмае пачуццё...
Гэта золакавае спатканне
Даравала само жыццё.
Нам не быць назаўсёды разам:
Я – дзівачка і ты – дзівак.
Пачуццё маё без адказу –
Не адчуць тваіх вуснаў смак.
Толькі вобраз тваёй усмешкі,
Толькі шчасця нясмелы ўздых,
Паглядзеў мне ў вочы першым,
Запусціў у маё сэрца крык.
Адазвалася не адразу,
Закахалася спярша,
Адчуваючы подых сказаў,
Што ты скажаш мне пасля.
Зазірнуўшы табе ў вочы,
Я ўбачыла вясну.
Стаў прыходзіць употай ноччу,
Хвалюваць маю душу.
Мы з табой спярша гаманілі,
Потым ураз перайшлі на ты.
У словах нашых навек застылі
Непадзельныя масты.
Крок у вечнасць – і зноў маўчанне...
Так лягчэй разумець жыццё.
І няхай назаўтра раннем
Страцім вечнае пачуццё,
Дараванае нечакана,
Несхаванае назаўжды,
Бо кахання звычайна мала
Ў светлы ранак, у час вясны.

## Несвоечасовае

Моцны поціск рукі –
не тваёй,
І ласкавы ўздых –
не твой.
Мы сустрэліся вясной,
Ды не той,
не той,
не той...
Нам світанак святло дарыў,
Цалаваў нашы вусны дождж.
Ты нічога не гаварыў...
І не трэба –
было бы горш...
Хваравіты бляск у вачах,
Мара – доўжыць яго жыццё.
І так хочацца крычаць
пра маё
да цябе
пачуццё!

* * *

Перагарні старонку дзіўнага санета:
Там адшукаеш маналог майго жыцця.
У подыху радкоў імчыць планета,
А ў ёй каханне – ты і я.
Перагарні старонку дзіўнага санета:
Пачуеш смех Ірынкінага лета.

## Снежная зіма

Снежная зіма…
Снежная на пачуцці.
Зноў засталася адна.
Слёзы сціскаюць грудзі.

Снежная зіма…
Снежная на мары.
Холадна ля вакна,
А на душы туманы.

Снежная зіма…
А ёй ні канца ні краю…
Снежная мара мая,
Сумная ад жалю.

* * *

Той дзень быў лепшы...
Не было цябе!
І я малілася аддана Богу.
Твой след застаўся ў зіме,
Але спярша мне паказаў
Дарогу!

## Тытунёвае

Раман з цыгарэтай,
Калі ты адна,
Змыкае жыццё ў кругі.
Мне ранак здаецца
Пачуццем без дна,
А вечар балючы, як ты.
Мне хочацца ўспомніць
Усё, як было,
А потым забыцца навек.
Жыццё без цябе
Нібыта прайшло,
Як падае попельны снег.
Бянтэжацца зоры
Ад нашых размоў,
Схіляюць сваю галаву.
І неба ўзрывае рогатам кроў,
Каб згвалціць сляпую вясну.
“Раман з цыгарэтай!” –
Нібыта прысуд
Выносіць балюча мне дым.
Мы самі ствараем жорсткі абсурд,
Каб сэрцу не быць маладым.

* * *

Я не была тваёй навекі,
Абы застацца чалавекам.
Абы духоўна не сканаць
І душу д'яблу не прадаць.
Спакусай нарадзіўся травень
У прыцемку вар'яцкіх спален
І споведдзю святой сканаў,
У часе посту век аддаў.

* * *

Бясконцасць вымярэнняў…
І толькі міг для сну.
Часы маіх падзенняў,
Калі я адпачну?..

Жыццё без адпачынку...
А можа, так і ёсць?..
Ні думкі перапынку,
І я хаваю злосць.

## Дэпрэсіўнае

Калі фізічна ты хварэеш –
Не хоча верыць і душа
У тое, што ўсё паспееш
Зрабіць, як разважаў спярша.

Боль адзіноты, прага стрэчы
З сябрамі любымі маймі.
Душу калечыць, а не лечыць
Жывы і едкі ўспамін.

Так, памяць светлая бывае.
Бывае горкая яна.
Бывае памяць забівае,
Нібы сапраўдная вайна.

О як балюча мне ў сэрцы,
Кіруе болем смутак дзён.
Ад успамінаў не сагрэцца,
І гаснуць зорачкі імён.

Іх запаліў чароўны майстар,
Паверыў, да вяршынь узнёс,
Але ўсяму свой час пагаснуць,
Бо так распарадзіўся хтось.

* * *

Не хаваю думак,
А хаваю сэрца
І іду наперад,
Толькі не смяюся.

І мой вечны смутак
Не дае сагрэцца.
Я бягу да неба
І наўрад вярнуся.

## Неадназначнае

*Маім бацькам*

Усё-такі жыццё неадназначна!
Кіруе нашым лёсам свет надзей.
Сумленным я жадаю шчасця і ўдачы,
Узмах крыла над хваляю падзей.

Усё-такі жыццё накіравана!
Чыёйсьці воляй вызначае лёс.
Мне выбіраць у жыцці складана –
І зноў ад родных міліёны вёрст.

І ты, стамлёны адзінотай,
Кідаеш усё, што непатрэбна, убок,
Радкі кладуцца спелай нотай,
Душа закрыта на замок.

І ўсё-такі жыццё неадназначна!
Мне даравала думкі й верш.
Хто дараваў жыццё – Таму ўдзячна,
Маім бацькам усяго найперш!

## Неспакойнае

У хмарах пячатка вечнага болю,
Які адгукаецца вечным адчаем.
Лятаю я птушкай, шукаючы волю,
А вынік – спакою не маю, не маю.

І промні святла не блішчаць у нябёсах,
Заслонай вялікай пачуцці схаваны.
І шые бясконцай ніткай на кроснах
Драбнютачкі дожджык дзіцячыя раны.

## Няўжо?..

Няўжо жыццё змяняе рытмы?
Няўжо спакойнай буду я,
І смак эпохі каларытны
Ўецца ў сэрцы, бы змяя.

Няўжо вясна вясною будзе,
Зіма зімою загучыць?
Няўжо другімі стануць людзі –
Другі і сэнс нам будзе жыць.

Няўжо любоў, каб назаўсёды?
Няўжо святло, каб назаўжды?
Няўжо прыемныя нам словы
Заменяць смагу барацьбы?

Крывёй не будзем залівацца,
Не будзем плакаць дзень і ноч,
А будзем голасна смяяцца,
У сэрцы перастане дождж?

Няўжо, скажыце, гэта будзе,
Каб і любоў, і назаўжды?
Няўжо не будуць нашы людзі
Стаяць на хвалях барацьбы?..

## Курапаты

Курапаты. Боль. Спрадвечны...
вечны...
У крыжовым ляманце людскім
У памінальную суботу свечы
Дагараюць курганом святым.

На ўзмежках кальцавой дарогі
Сёння засмяецца Люцыфер.
Знакі прыдарожныя, бы рогі,
А наўкол крыжы і дзікі звер.

Курапаты. Хочацца спакою. Назаўсёды...
на спакон вякоў.
Дай жа Пан, Святы, Белабароды,
Ім яго... І Вечную Любоў!

## Калі бел-чырвона-белую радасць забівае чырвона-зялёны маразм

Плача сёння Беларусь,
Плача горкімі слязьмі.
Я з дажджом яе смяюся,
Разважаю над людзьмі.

Учора быў грахоўны дзень,
Раскідаў свае імгненні,
А пакінуў толькі цень,
Нежывы і несумленны.

Сёння вецер ірве на часткі
Усе лісты ад злой зімы,
І тырчаць клыкі з-пад пасткі,
Страх смяецца з-за карчмы,

Дзе сядзеў і верыў у цуд,
Паглядаў, плюваў у вочы.
Вось нарэшце зноў прысуд:
Беларусь – сляпыя ночы!

Холад, голад у кутках,
У сярэдзіне – Галгофа.
У марах толькі і ў вяках
Засталася яшчэ цнота.

Сорам...Сорам у вачах:
Мы не здолелі прызнацца,
Як мы плачам па начах,
Як нам цяжка жыць, смяяцца.

Выбар зроблены, цяпер –
Беларусь – сляпыя вочы.
Толькі страцілі давер,
У кутку сядзім зноў моўчкі.

Плача сёння Беларусь.
Плача, стогне ў ёй надзея.
У мінулым ёсць свой плюс,
А за будучым – падзея.

## Праўдзівае

Завіруха слоў,
Перабранка думак
Рвуць на часткі брацкую любоў.
Паміж усіх судоў
Бачыцца малюнак,
Што намаляваны
Кроў за кроў.
Праўда вочы коле,
І плюем у спіну
Ці кідаем нож.
Думкі прагнуць волі...
Сярод мноства кпінаў
Брыдкаслоўя дождж.
Цяжка жыць за праўду
І яшчэ змагацца,
Кінуўшыся ў багну,
Каб з душой застацца.

## Родная мова

Родная мова…
Калі ты адродзішся?
Вартаю станеш
З моцнай крывёй.
Родная мова…
Калі ты ўзродзішся,
Праўду памянеш.
Я толькі з табой!
Родная мова!
Яна – беларуская!
Чыстая, светлая,
Мілая… гучная!
Родная мова!
Мая беларуская!
Болем апетая,
Упарта жывучая!

* * *

Час  быў пачварны,
Нямы і сляпы.
Горкія лёсы, лёсы вайны.
Туляцца душы ў храмах нябёс.
Наш беларускі – пакутлівы лёс.
Можа, вы чулі калі галасы?
Можа, вы бачылі слёзы вясны?
Плача ўвесь час ад болю пакут
Болем устрывожаны родны наш кут.
Болем устрывожаны вечнай вайны
Край беларускі крычыць: “Я жывы!”

## Вольная думка

Па крывавых слядах барацьбы
Малацілі слязамі волю.
Па пякучых шляхах вайны
Баранілі нямую долю.

Па зялёных лугах, палях
Вандравалі душою, сэрцам.
Па халодных зімы снягах
Мы шукалі ў гісторыі месца.

Ваявалі й смела ішлі,
Замянялі жыццём падзею
Беларускай сваёй зямлі,
Баранілі душой надзею.

Забываемся вольна цяпер,
Надакучыла нам змаганне.
Забываемся, трацім давер,
Засамоціла нас ваганне.

Перабежкамі па зямлі
Пераблыталі шчасце мовы.
Засталіся адны змагары,
Што ваюючь за родныя словы.

Засамоціла нас жыццё,
Затужыла па шчасці думка.
Патрыёткі жыве пачуццё –
Беларуская вольная думка.

## Віцебскае

Горад ценяў, горад мрояў
Падказаў імклівы лёс.
У сюжэце новых роляў
Праглынула рэшткі слёз.
Горад шчасця?..
Не – спакою!
Горад думак?..
Не – разваг!
Пакахала сваю мрою
І няхай жа будзе так!

## Дадому імчыцца сэрца

Дадому імчыцца сэрца,
Імчыцца з моцным ветрам,
І соннаю хваляй льецца
Думка ў абдымках з паветрам.

А недзе там, у нябёсах,
Гуляе ў схованкі з сонцам
Мроя надзей бялёсых,
Думкі плывуць бясконца.

З натхненнем іду я побач,
Адкідваю марныя справы
Цалую ўпотай роспач,
Вітаю свае забавы.

Забудуся на няшчасці,
Спалю дарэмныя думкі
І паспрабую скласці
Святой прыгажосці малюнкі.

У думках ірвуся дадому...
Ды зноў перашкодзілі справы,
Пакінуўшы толькі стому
Ў абдымках вечнай мары!

## Хатняе

Гамоніць шчасце ва ўтульным доме,
Жыве шыкоўны гаспадыні лад.
Тут не бывае месца стоме,
Тут кожны госцю будзе рад.

## На вёсцы

Можа, там, у сялянскіх хатах,
Знойдзеш свой кавалак душы,
Што згубіўся ў блуканнях багатых
Па бясконцай жыццёвай шашы.

Можа, там, на паветры чыстым
Зноў народзіцца думка твая.
Усміхнешся палям прамяністым,
Знойдзеш ты, што шукаў здаўна.

У вясновай пары папросіш
Міласэрнай святой слязы.
Ты вадою душу паросіш,
Пазасцеліш святла абрусы.

Можа, там, у пяшчоце кахання
Сэрца полымем будзе мігцець.
Над рамонкавым полем раннем
Будзеш ластаўкай вернай ляцець.

Можа, там у далоні возьмеш
Зорку шчасця тваю і яго.
Зноўку радасці ў долі папросіш,
Спасцігаючы святло.

Можа, там, у вясковых хатах,
Дзе гамоніць жывая душа.
Ты памолішся за багатых,
У каго за душой ні граша.

* * *

Позірк восені –
Ён сумны.
Шэры ўзмах яе крыла
Прыбярае дні і будні,
У глебу ўсё
Кладзе яна.
Позірк гронак
Той рабіны
Бавіць вока –
Ты зірні:
Позірк ясны
У яліны.
Усе бярозы –
У агні.
Дык адкуль жа
Сум бярэцца?
Можа, у небе
Дзесьці ён...
Позірк сонца
Не смяецца.
Холад у глебе,
Глебы стогн.
Хаты ў вёсцы
Зноў паснулі.
Чуткі змоўклі
З вуснаў баб.
Еду ў госці
Да матулі.
Слёзы-кроплі:
Крап-крап-крап.

Позірк восені –
Ён сумны,
Развітальны
І скупы.
Позірк восені –
Разумны:
Развражае да вясны.

## Асенняе

Асеннія палі…
У іх схаваны сум.
Здаецца, жыць ды жыць,
Але ўсюды тлум.

Асеннія лясы…
Іх шчасце ў лёгкім сне,
Чакаюць зноў вясны,
Ды не прыйсці вясне.

Асенні ворах спраў
І нечаканы ўзлёт
Душэўнае забаў
У слёзнасці клапот.

Асенні пах душы,
Блукае што вакол.
Ты толькі напішы
Асенні ліст мне зноў.

Асенні ліст вясны
З усмешкай зімніх зор.
Ты толькі напішы –
Я пачакаю зноў.

* * *

Гарачыя подыхі траў,
Гармонія музыкі сонца.
Чутно, як гармонік зайграў
У хвалі жыцця бясконцай.

Ліецца матыў нябёс
І хочацца слухаць песню,
Яе дараваў мне лёс
Апошнім днём увесну.

## Зімова-вясновае

Белай птушкай зіма адыходзіць,
І з дажджамі прыходзіць вясна:
Мокрым пухам яна карагодзіць?
Цудадзейная казка святла.
Колькі радасці ў ручаіне,
Што спяшаецца хваляй імчаць.
І дажджліваю кропляй-слязінай
Усе пярыны імкнуцца растаць.
Белай фарбы зіма не шкадуе,
Беліць вуліцы, дахі дамоў
І пейзажы свае малюе,
Не здымаючы коўдры з палёў.
А жаданне вясны паглынае,
І смакуе цяпло душа,
Свежым ветрыкам забаўляе.
Гэй, сустрэць бы цябе, вясна!
Белай птушкай лунае ў паветры
Цень апошні былой зімы,
Успамінам зімовага рэтра,
Сустракаю прыход вясны.

## Кветкавы баль

У гародчыку бабулі
Кветкі пышна расцвілі.
Ладзяць балі ля цыбулі
“Каралеўны” й “каралі”.

Сакавітыя лілеі,
Чырвань макаў і півонь,
Пах узвышанага хмелю
Зноў казыча маю скронь.

А чаёвы пах смароды
Саладзіць душу маю,
Запрашае да размовы
У вечаровую пару.

У гародчыку бабулі
Кветкі ладзяць пышны баль.
...Барабаняць гулка дулі,
Ноч накідвае паркаль.

## Маланка

Бярозы вятрыска калыша над гаем,
Лістота трымціць ад напеву паветра,
І гоніць даждлівую чорную зграю
Маланка-дзікунка, вядзьмарка ад лета.
Знікаюць імгненна праменьчыкі сонца,
Гарачая млоснасць прыроды знікае,
І чуецца грукат грымотаў бясконцы –
Над гаем зялёным маланка спявае.
Мігцяць бліскавіцы, іх свецяцца стужкі,
І вецер няўмольна гуляе з лістотай.
Чароўнае лета дзяўчынай-пастушкай
Хавае ў маланцы ўсмешку ўпотай.

## Рамонкавае лета

Рамонкавае лета даравала шчасце дзён,
Знікала што элегіяй асенняй.
Каханне у паэта – васільковы лён –
Шамоціць і ільецца песенькай вясенняй.

Пад вокнамі хмурнела прыгажосць,
У былой самоце плакалі вяргіні,
Расказвалі адна адное штось,
Мігцелі на пялестках ручаіны.

Пажоўклае лісцё ляжала ля бяроз,
Ганяў апошні ліст пакутнік-вецер,
Зрываючы з галінак кроплі слёз,
Прыносіў дождж, блукаючы па свеце.

Ішло павольнай хваляю жыццё,
Праводзячы імгненняў паралелі.
Рамонкавае лета даравала пачуццё
І зноў схавалалася ў надзеі.

* * *

Вершы ад сэрца – вечная справа.
Талент у рукі – пісаць і пісаць.
Рыфмы складаць, напэўна, – забава –
Гэтыя вершы не хочуць чытаць.

Родная мова ў паэта, як зброя,
Слова, што з вуснаў ліецца, – ручай.
Шчасце – убачыць птушку на волі.
Раптам знікае з сэрца адчай.

Думка ірвецца ўвечары, ранкам.
Мара паэта вечна, бы сон,
Шчыра спявае ён калыханкі
Дзецям-радкам, што ўзялі ў палон.

І не спыніцца, няма перапынку,
Часам жыццё – гэта мроя нябёс.
Вершы не ведаюць час адпачынку,
Бо паэтычны – складанейшы лёс.

* * *

Воляю Тваёй,
Маёй уладай
Я ствараю сонцаверш.
Боскаю чароўнаю лампадай
Асвячаю свой відзеж.

У гліняным глечыку аблокаў
Я схавала след маладзіка.
І ахвярай бездакорнай зноўку
Палюбіла я цябе, вясна.

## Спевы снегу

Вы чулі, як спявае снег?
Спявае ціха, так чароўна!..
Ільецца з неба мяккі смех:
Жартуе Боская князёўна!

Таемны бляск яе вачэй
Схаваны ў новае сустрэчы.
Яна прыходзіць у час начэй
І спевам нашы душы лечыць.

Калі пачулі спеў,
Яго душу, матывы,
Вы – дзіўны чалавек:
Зіму вы прытулілі,

Калі пачулі смех
Нябеснае князёўны,
Вас напаткаў Сусвет,
Зімовы і чароўны.

* * *

Тулюся да вяршыняў
Полацкай зямлі,
Чытаю ў іх Скарынаўскія кнігі,
У якіх схаваны скарбы цішыні
І незабыўнае радкоў матывы.

* * *

У сузор'і вясёлкавых ранкаў
Я хачу застацца з табой,
Беларуская калыханка,
Супакой мяне, супакой.

Паміж хмараў, магутных, вечных,
Мне дазволь гэту песню спець,
Запаліўшы адчаю свечку,
Не змарнець ды не згарэць

Ад чырвоных промняў сонца,
Ад лірычных уздыхаў палёў.
І застацца тваёй бясконца,
Беларуская любоў!

* * *

Цяжка дыхаць бярозам у смутку
Ў чаканні дажджлівай слязы
І, хаваючы горкую думку,
Зноў трымцяць пад напорам вады.

А ваду яны ўяўляюць,
У гарачай стоме сняць.
Пакаронае лісце смаліць
Прамяністая сенажаць.

Я з прыродай дожджу чакаю,
Каб абмыў ён маю душу
Ад таемнага горкага жалю,
Пра які вадзе раскажу.

## Смутак

Зімовы смутак
Пачаў размову
Ў маёй душы:
Чацвёра сутак
Ліе па слову,
Кажа аб жыцці,
Схаваў усмешкі,
Навеяў снегу
І дараваў мароз.
Гуляе ў снежкі
Штогод адвеку
Мой дзіўны лес.

## Сваё

У кожнага сваё імгненне.
Свой час,
каб здзейсніць
свае мэты.
Свой лёс, матыў,
сваё сумненне
і свой Сусвет сваёй планеты.
І ў цябе сваё каханне,
І ў мяне свая любоў.
Сваё спатканне і вяртанне
У краіну Мараў,
Згадак,
Сноў.

## Тужлівае

Мне адзіноты хочацца, калі ёсць звадкі,
Калі ўвесь свет, нібы супроць цябе,
А маці зноўку кліча на аладкі
Дадому еду я ў бясконцае тузе.

## У цішыні

Я сёння чую цішыню.
Я слухаю яе матывы.
Я сэрцам сэрца паланю.
Я распрамляю свае крылы.

Я чую пах маёй душы.
Я ў думках крэслю блытаніну.
Я мкнуся ў неба, да вяршынь.
Я крочу сэрцам на Радзіму.

* * *

Як мне быць,
калі ўранку
лёс спявае
калыханкі?
Як мне быць,
калі ўночы
лёс мне баіць
аб дзявочым?
Што рабіць,
калі ўдзень
лёс пакінуў
толькі цень?
Што рабіць,
калі жыццё
даравала пачуццё?
Што залежыць ад мяне?
Можа, усё?!
А, можа, не!
Што залежыць ад жыцця?
Можа, лёс,
а, можа, я?!

* * *

Чулай радасці ў словах шчырых,
Прыгажосці ў квецені садоў,
Каб узносіла на крылах
Вечная, Анёльская Любоў.

## Пажаданне

Я жадаю табе дабра,
Цеплыні і людскіх усмешак,
Каб квітнела твая душа
У абшары блакітных пралесак.

Я жадаю табе любві,
Чалавечай, сямейнай, шчаслівай.
Я жадаю табе вясны –
Абуджэння і новых сілаў.

Вечаровых сяброўскіх сустрэч,
Звон кілішкаў за сябра здароўе.
Гнаць самоту заўсёды прэч
І выдатнага настрою.

Я жыццёвай жадаю смагі –
Хай пануе ў жыцці экстрым
Я жадаю да зорак прагі –
Хай пульсуе адрэналін.

Я жадаю бясконцай веры
У святло і дабрыню.
Я жадаю не страціць надзеі
У цудоўную мару тваю.

## Пошукі

Усе мы да Бога імкнемся,
Жывем па-людску, грашым,
А што яшчэ застаецца,
Калі не ўмеем жыць.

Смяемся... ды зноў не смяецца,
Кахаем... ды не таго.
А што яшчэ застаецца –
Забойства? Пятля? Лязо?

Жыццё не дае нам ісцін,
Якія дае нам Бог.
Шукаем спрадвечна выйсце
Ў трохкутніку, ля дарог.

А потым душа імкнецца
Да Бога, да Яго,
Бо толькі пад уладай смерці
Спасцігнем ураз Святло.

## Пытальнае

Няўжо гэта думкі лёсу,
Што трэба ісці далей?
І я магу быць злоснай,
Магу быць яшчэ дабрэй.

Няўжо я іду да мэты?
Пытаюся: “Да якой?”
У бясконцасці ўсёй планеты
Я застаюся з Табой!

## Не судзіце

Не выносьце мне прысуд!
Не выносьце, прашу вас, людзі!
Я стамілася ад пакут
І не ведаю, што будзе.
Не чакаю – проста люблю.
Я не плачу, бо слёзы зніклі.
Памалюся ўначы Хрысту,
Ад якога вы так адвыклі.
Не выносьце мне прысуд!
Не выносьце, прашу вас, людзі!
Я стамілася ад пакут...
Не судзіце мяне, як суддзі!

* * *

Мне хочацца ў вырай, у нябёсы.
Там, дзе Боская сутнасць, дзе Ты.
Не з’яднаюцца нашы лёсы
Тут, на грэшнай на зямлі.

## Колькі

Колькі выплакаць слёз яшчэ
Па сумленнасці і пяшчоце?..
Па даверы людскім і цноце
Колькі выплакаць слёз яшчэ?..

І не зробіцца лягчэй,
Калі ўсе жывем у балоце.
У ліслівай душы чарноце
Мне не зробіцца лягчэй.

Ліўнем слёз я ізноў заплачу,
Памалюся з ціхмянай верай,
І няхай мне Бог адзначыць
Колькі часу яшчэ даверу.

* * *

Збяру жыццё ў прыгоршні ўспамінаў,
І там народзіцца мая душа,
У веры, у келіху спачынаў.
Адзін глыток – і смерць прайшла.

І я крычу яму: “Жывая!”,
А ён не здолее прыняць.
Я не святая, не святая,
Я не хацела ёю стаць!

* * *

Жыць да канца,
да рэшты,
аддаючы сябе,
застаючыся грэшнай,
толькі для Цябе!

* * *

Давай мы здрадзім нашай мары,
Але не здрадзім Богу мы спярша.
Жыццё сваё не выбіралі,
Але абраная была душа.

* * *

Даруй святло Тваёй душы,
каб вызваліць мяне з граху,
каб справы ў час свае вяршыць
і зразумець, што не магу
я жыць без Цела і Крыві,
благаславёнай на вякі
і жыватворнасці вады,
якой бягуць Твае шляхі.
У таямніцы ачышчэння,
У час святога пакаяння,
У крыніцы чыстага збавення,
У чуллівым кроку навяртання
Я зберагу сваё жыццё,
О Хрысце, Ты – маё жыццё!

## Вера

Вера – апошні прытулак душы.
Вера ў Бога ёсць дараванне.
І сярод спраў паўсядзённай імжы
Гэта да шчасця нямое вяртанне.

У веры хаваецца наша Любоў,
У веры гучыць душы пакаянне.
Вера – пачатак душэўных высноў,
Крок у бясконцасць, памылак прызнанне.

Верыць у Бога – значыць любіць,
Верыць у шчасце – да Бога імкнуцца,
У справах людскіх пакорнаю быць
І ад грахоў, як мага, адхінуцца.

Вера – апошні прытулак душы.
Вера – душэўны прытулак першы.
У веры не знойдзеш пэўнай мяжы,
З ёй чалавек становіцца лепшы.

* * *

Гул нябёсаў у небе бачыш?
Гэта д’ябал гуляе ў фарс.
І няўжо ты яго перайначыш?
Просім, Божа, звярніся да нас!

А калі не звернешся ў часе?
Хочаш смерці ці простай гульні?
Чалавек ляжыць на пласе –
Выратоўваць будзеш Ты.

Ты вартуеш жыццё чалавека,
Выратоўваеш душу
І глядзіш на яго з-пад павекаў,
І выносіш: ? Грашыш?

? Грашу!

Чалавек у адказе хіліцца,
Долу падае, да зямлі,
А душа ў неба высіцца,
Зноў шукаючы цеплыні.

А ці знойдзеш ты, чалавеча,
Што шукаў адвеку, здаўна,
Каб ты жыў у нябёсах вечна,
Каб жыла там твая душа.

Бог нам верыць.
Мы веру ўскладаем
У нашы думкі, малітвы, душу.
І тым самым жыццё вяртаем

У адказе ўжо:
? Не грашу!

## Разумовае

Выкалаць вочы,
Раструшчыць думкі,
Каб не грашыць,
Бо спасцігаючы розумам усё
Мне ў гэтым свеце жыць.

## Спавядальнае

Даруйце мне ўсё…
Даруйце мне памылкі…
Я плачу, як дзіцё,
І на душы так брыдка.
Жадаю ўсім дабра
І цеплыні душэўнай,
У думках я адна.
Даруйце маю рэўнасць.
Я плачу ад любві,
Я плачу ад сумлення,
Даруйце мне грахі,
Даруйце мне сумненне.
Жыву ўсмешкай тых,
Хто насычае сонцам
Жыццё людзей малых,
Хто з нас смяецца проста,
Хто плаціць за жыццё
Сваею дабрынёю,
Імкнуся ў забыццё,
Прашу, ідзі са мною.
Даруйце, людзі, мне
Маю нямую слабасць,
Жыву, нібы ў сне,
Кляну сваю стараннасць.
Даруйце мне любоў,
Якую я хавала,
Даруйце зноў і зноў,
Бо вас мне не хапала.
Даруйце мне ўсё:
І вершы, і прызнанні –
Яны – маё жыццё,
А вы – маё каханне!

## Браслаўскае

Зноў Бог малюе абразы
Ў небе браслаўскіх азёр.
Я размаўляю з ім на Ты
Ў малітве ветлай за сяброў.
Калі гляджу на захад сонца
І ўсміхаюся дажджу,
Малітвай шчырай і бясконцай
Я моўлю Госпаду Хрысту.
А потым ранак дорыць мне
Імгненні Боскага кахання
Ў пялёстках ружы і ў Хрысце
Падчас святога пакаяння.
Я зноў малюся за людзей,
За навяртанне ў іх сэрцы,
За Божы Провід у час надзей,
Каб пачуццём Хрыстовым грэцца.

* * *

Падарыце мне світанак,
Бо хачу патануць у святле,
Чысты-чысты і росны ранак
Прысвяціць аднаму Табе.
Усміхацца дзівосным промням,
Усміхацца Твайму дажджу
І застацца заўсёды вольнай
Ад граху, ад граху…граху!..

* * *

Нязвыклыя манаскія ўборы…
І Ён – святы.
У паўзмроку велічэзнага сабору
прыходзіш Ты!
Ледзь чутна крочыш
…У Святле Лагодным
да алтара.
Жыццё мяняеш Ахвярай Кроўнай,
дзе боль Твая.
Перамяняеш,ператвараеш назаўжды!
І так стаецца ў Святле Лагодным,
Што Ён – святы!

* * *

Не патану ў гніллі ніколі,
Калі схаваюся пад Покрывам Тваім,
Спазнаўшы чыстасць й бруд адначасова,
Я выбіраю першае сваім!

## Соннае

Пакінула восень
мне шалік з паркалю,
У яго захінуўшыся,
я засынаю.
Не ведаю болю,
Не ведаю жалю,
І толькі ўсмешку ў сэрцы
я маю.
З зімою ў схованкі сонна гуляю:
Люблю яе дзіўныя белыя хвалі,
Мелодыю снегу
і белыя шалі...
Пад гукі віхураў
я засынаю.
Не ведаю болю,
Не ведаю жалю.

## Маці

Любоў у вачах жыве,
У сонечных абдымках,
І шчасце дорыць мне
Усмешка ў маршчынках.

Матулі цеплыня,
Пяшчота ў словах, дзеях,
Святая дабрыня
Жыве ў яе надзеях.

Пачуццяў не хавае –
Яны ільюцца стужкай.
Зноў пачастуе чаем
Любімую дачушку.

І толькі ўсміхнецца
Праз чыстыя слязінкі,
Калі зноў застанецца
Адна ля той сцяжынкі,

Якая мчыць дадому
Яе дачушку з мужам
На шчырыя размовы
На злосць завеям сцюжы.

## Сябру

*Л.С.*

Пабачыць цябе наскрозь,
У вочы табе зазірнуць,
Недаказалі штось,
Але змаглі адчуць.

Калі навяртае любоў,
Ты ведаеш гэта сам.
Не трэба ўрэшце слоў,
А трэба шлях у храм.

## Перад вянчаннем

У царкве перад Богам стаю,
Побач – ты, спадарожнік лёсу.
Я ўголас ціха малю,
А душу амываюць слёзы.
Перад Богам клянуся ісці
Па дарозе жыцця адзінай,
Побач радасць святую вясці,
Што бруіцца шчаслівай хвілінай.
Паяднацца з табою навек,
Перад Богам з табой паяднацца,
Каб і ты, і я штовек
У нябёсах маглі сустракацца.

## Вобраз

Твой Вобраз, погляд з абраза –
Першакрыніца ачышчэння
І незабыўнае маленне
У сустрэчным позірку Святла.

Твой Вобраз – удзячнасці матыў,
Не правы часам чалавеку,
І будзе ўспамінаць давеку,
Як той грашыў і проста жыў.

Твой Вобраз – сузіранне плоці
У нябёсаколеравай гаме.
І ты ўжо, ужо не ў стане
Пражыць, рабіць без Яго штосьці.

Твой Вобраз…не спазнаць нам болей…
Астатняе – усё Таямніца…
І кроў Твая – мая крыніца
і шлях, які сатканы з болю.

## Узнясенка

Узнясіся душа мая ў вырай блакіту нябёсаў,
Атрымай пацалунак і подых святога святла
І вярніся ў край зганьбаваных і кінутых лёсаў,
Пакахай іх Хрыстом і ў імя Хрыста.

Калі раптам у цябе паламаюцца крылы,
...Падай ніц, але веру сваю захавай
І ў абдымках паветра ахвярай пахілай
Ты забудзься на боль, толькі ўзнёсла кахай.

## Успенка

Успенне ўспомніць,
абняўшы крыжы,
І плакаць ад шчасця… да болю.
Углядацца ў сінечу…
не ведаць мяжы
... І марыць, і марыць пра волю!

* * *

У паркалёвую ноч захінуцца,
Каб толькі з Табою быць,
Мне бачыць Цябе і сніць
І ўрэшце адной прачнуцца.

***

У маёй душы замест камення
Ты пакідаеш свечы
У гэты вечар, Сьвяты вечар
Біблейным Словам Вечным.

## Пытанне

Ад Бога, ад д'ябла,
Альбо ад душы
Мне вершы пісаць
І па-людску грашыць.
Зноў верыць у шчасце,
Кахаючы, жыць.
Смяяцца і плакаць,
І творча вяршыць...

* * *

Памаліся за мяне світаннем
У час, калі мне паміраць…
Пакаяннем, толькі пакаяннем
Мару ўрэшце рэшт сканаць…

Памаліся за мяне без словаў
...У святой нябёснай цішыні.
Я адчую, я адчую мову,
Дасягнуўшы пекла й вышыні.

Памаліся за мяне прад Крыжам
Спавядальна, Дабравесна так.
Я пачую дзесьці на ўзвышшы,
Зорачка ўпадзе як знак.

Памаліся, чуеш, памаліся,
Ну а потым светла ўсміхніся,
Бо заўсёды я рабіла так J

* * *

Квітнее сакура?
Ды не...
Квітнее бруд
Ад чорных узрываў.
І гэта ўсё па той вясне,
Калі ты верыў у перспектывы.
І надмагільны гарызонт
Застане нас у вечнай слоце.
Ты пражывеш,  магчыма, год
У фукусімскай бруднай жоўці!

## Бессмяротнасць

“Вы бачылі,
Што Ён – жывы”? –
Крычалі тыя,
Што дагэтуль
Лямантавалі ўшчэнт
...”Распні!”
“Так! Ён –жывы!” –
Сказаў Іосіф.
“Так! Уваскрос!” –
Крычалі потым
Усе народы,
І вечна радасць
Стала з імі.
Хрыстос Уваскрос!
Чутно па свеце.
І Сапраўды!
Паверце!..

* * *

Гарэзлівым позіркам простай дзяўчыны
Спрабую абняць нябёсы Твае,
І толькі душа застаецца знясіленай
Увосень, узімку і зноў па вясне.

* * *

Мне вершы не пісаць душой,
Пачуцці рвуць усю паперу.
Не крочыць у свет святой шашой,
Не знітаваць любоў з даверу.

## Ранкам

Не спаць…
Прачнуцца ад
вясны…
І выпіць кавы…
як заўсёды.
І сцішыць боль…
...былой
зімы
бясконцым пошукам
СВАБОДЫ!

* * *

Беларускасць штослова, штодня
У сімволіцы рухаў і целаў.
Беларускасць – гэта я!
Беларускасць – гэта смела!

# Змест